# Факсімільнае Тураўскае Евангелле прывезлі ў Брэст



Прэзентацыя выдання — копіі знакамітага помніка славянскай пісьменнасці — прайшла ў абласной бібліятэцы 23 снежня.

Тураўскае Евангелле створана ў XI стагоддзі і лічыцца старажытнейшым помнікам кніжнай культуры, які нарадзіўся на тэрыторыі сучаснай Беларусі. На жаль, да нашых дзён дайшлі толькі 10 аркушаў, якія былі знойдены ў Тураве ў 1865 годзе. З таго часу арыгінал захоўваецца ў бібліятэцы Акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх у Вільні. Вярнуць Тураўскае Евангелле пакуль атрымалася толькі ў якасці факсімільнага выдання.

Тураўскія лісты змяшчаюць дадатковыя запісы, два з якіх былі зроблены ў XVI стагоддзі ад імя князёў Астрожскіх.

Тураўскае Евангелле — гэта Евангелле-апракос. Тэкст Свяшчэннага Пісання размешчаны не паводле парадку, да якога мы прывыклі: Евангелле паводле Матфея, паводле Марка і г. д., а згодна з тыднёвымі царкоўнымі чытаннямі, пачынаючы з Велікоднага тыдня.

Перавыданне Тураўскага Евангелля стала працягам доўгатэрміновага праекта кампаніі Xerox і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі па ўзнаўленні беларускіх помнікаў пісьменства. У 2012 годзе быў перавыдадзены віленскі «Буквар» 1767 года — самы ранні беларускі буквар, які захаваўся да нашых часоў.

Кніга была выпушчана тыражом 500 асобнікаў з выкарыстаннем найноўшых тэхналогій. Апроч уласна факсімільнага ўзнаўлення ў выданне ўключаны навуковыя каментарыі. Па аднаму ўнікальнаму асобніку перадалі ў Брэсцкі, Баранавіцкі і Палескі дзяржаўныя ўніверсітэты. Атрымалі выданне і бібліятэкі Брэста, Баранавічаў і Пінска.



# АСТРАМЕЧАЎСКІ РУКАПІС

БРЭСЦКІ РАЁННЫ КРАЯЗНАЎЧЫ АЛЬМАНАХ

НАВУКОВА-МЕТАДЫЧНАЕ ЛІТАРАТУРНАЕ ВЫДАННЕ

БРЭСЦКІ РАЁННЫ
ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ

АДДЗЕЛ ІДЭАЛАГІЧНАЙ РАБОТЫ, КУЛЬТУРЫ І ПА СПРАВАХ МОЛАДЗІ РАЙВЫКАНКАМА

РАЁННЫ ДОМ РАМЁСТВАЎ

**Рэдактар і ўкладальнік:**

Аляксандр Валковіч

**Рэдакцыйная калегія:**

У.А. Мацука, Л.В. Жуковіч, П.І. Валынец, Л.П. Балашова, Т.А. Лук'янюк, Э.Ю. Марозава, Ж.С. Гарустовіч, А.І. Мальдзіс, С.Б. Панасюк, А.М. Крэйдзіч

**Навуковыя кансультанты:**

**Мальдзіс Адам Іосіфавіч,** доктар філалагічных навук, прафесар (г. Мінск);

**Швед Іна Анатольеўна**, доктар філалагічных навук, прафесар кафедры беларускага літаратуразнаўства Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А.С. Пушкіна

**Аўтар праекта:**

Аляксандр Валковіч

Камп'ютарная вёрстка І.П. Суворава
Карэктар І.У. Хмель

**Кантакты:**

(+375 29) 20-161-02
(+375 162) 965-957
e-mail: kotlas@tut.by

Падпісана да друку 25.02.2015.
Фармат 70х100 1/16. Гарнітура PF Agora Serif Pro.
Тыраж 99 экз. Ум. друк. арк. 8,10.
Друк цыфравы. Надрукавана ТДА «Артлайнсіці»,
г. Брэст, вул. Карбышава, 74.
Арыгінал макет падрыхтаваны
ТАА «Паліграфіка», зак. 400-2014.
Пасв. 2/2 ад 16.08.2013, пасв. 1/22 ад 16.08.2013,
вул. Стафеева, 21, 224007, г. Брэст
тэл. (+375 162) 49-26-79, www.poligrafika.by

**1-я с. вокладкі**: Янка Рамановіч.
Сельскі нацюрморт

**1-я і 4-я с. вокладкі**: Святошны рушнік

У афармленні выкарыстаны выцінанкі
мастачкі Святланы Вяль

Выходзіць штоквартальна
Мова: беларуская, руская

**№ 1 [9]•2015**

У НУМАРЫ:

*Адна са старонак архіўнага «Астрамечаўскага рукапіса»*
*(«Рукапіс 127/56 Ягелонскай бібліятэкі» г. Кракава).*
*Нотны запіс выканыны ў старажытным манеры XVII стагоддзя*

# *O Maryia!*




Копія захоўваецца ў аддзеле рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі. Паўторна зроблена намаганнямі і за сродкі СВК «Астрамечава» спецыяльна для часопіса «Астрамечаўскі рукапіс»



# Зварот да землякоў

**Іван Аляксеевіч ПАНАСЮК,**
**былы жыхар в. Астрамечава, краязнавец,**
**аўтар зборніка «Остромечево и «остромычивцы»**

Паважаныя чытачы нашага цудоўнага краязнаўчага квартальніка «Астрамечаўскі рукапіс», ураджэнцы, былыя жыхары сяла Астрамечава!

Справа ў тым, што мая родная вёска Астрамечава ў 2016 годзе будзе адзначаць сваё 500-годдзе з першага пісьмовага ўспаміну. Кароткая гісторыя вёскі была сабрана і выкладзена мною ў зборніку «Остромечево и «остромычивцы», выдадзеным у г. Брэсце ў выдавецтве «Альтэрнатыва» дзякуючы старшыні СВК «Астрамечава», паважанаму Аляксею Сцяпанавічу Скакуну, які ўжо 33 гады з'яўляецца кіраўніком гэтай вядомай усім гаспадаркі. Пасля выхаду зборніка мяне ўсё роўна не дае пакою адна невялікая таямніца. Я буду вельмі кароткі ў сваім расказе.

Першы ўспамін пра нашу вёску размешчаны ў першым томе знакамітых



«Літоўскіх ведамасцей», другой кнізе угой судных спраў на старонках 862–864, выдадзенай у 1903 годзе ў Санкт-Пецярбургу. Да 2010 года ва ўсіх энцыклапедыях першае ўпамінанне пра Астрамечава дацціравалася 1533 годам і належала яно Яцко Іванавічу Ільінічу. Сёння ў інтэрнэце гэта даступны матэрыял, а ў 2009 годзе ён не быў яшчэ размешчаны. Пры падборцы матэрыялаў да зборніка я неаднойчы наведваў Брэсцкі абласны краязнаўчы музей. І вось аднаго разу супрацоўніца музея Ірына Міхайлаўна Маркевіч паказала мне адну невялічкую цікавую спраўку на невялікім аркушы паперы. Яе склаў былы супрацоўнік музея, знакаміты ў свой час краязнавец Міхаіл Іванавіч Алексяюк, светлай памяці якога мы павінны быць заўсёды ўдзячны. Працуючы над іншымі матэрыяламі ў архівах НБР у Ленінградзе, ён зрабіў выпіску і пра нашу вёску, дзе даў старонкі і назву дакумента першага ўпамінання. Я даслаў копію гэтай спраўкі былому выпускніку нашай Астрамечаўскай школы 1954 года, палкоўніку ў адстаўцы, ураджэнцу в. Цупрыкі, жыхару Санкт-Пецярбурга Пятручыку Івану Сямёнавічу, які «выхадзіў» за паўгода копію дакумента з датай першага ўспаміна Астрамечава — 1516 год (прыкладна красавік-май,

таму што наступная спраўка датуецца жніўнем), яе я і размясціў у вышэйназваным зборніку.

У 1516 годзе маёнтак Астрамеч належыў Юрыю Остромечовічу, відавочна таму мясцовасць і назву насіла Остромеч, Остромечава і інш. Вёска на працягу чатырох стагоддзяў часта пераходзіла з рук у рукі. Так, у 1738–1939 гадах належала дзвум асобам: князям Пузынам і Сузінам, якія ў 1840 годзе аб'ядналіся. У 1840 годзе дачка Юліана Сузіна Разалія  1822 года нараджэння, выйшла замуж за палкоўніка, князя Юзэфа Ігнація Пузыну 1800 года нараджэння. Цікава і тое, што маладыя былі рознай веры: Юзэф Ігнацій — веры праваслаўнай, Разалія — веры каталіцкай. Вянчаліся яны ў новапабудаванай, трэцяй па ліку Свята-Міхайлаўскай царкве. Напрошваецца пытанне, ці прыняла Разалія веру праваслаўную? Відавочна, так... Гэта гісторыя пакуль невядома. З радаслоўнай Ю.І. Пузыны (у інтэрнэце) вядома, што ён памёр 26.08.1874 года ў Астрамечава, дзе і пахаваны. Разалія памерла 31 сакавіка 1908 года ў Нароўлі. На могілках ніколі такой магілы ніхто не бачыў і не помніў. У 50–60-я гады XX стагоддзя людзі расказвалі, што «пан» пахаваны ля нашай царквы, справа, недалёка ад уваходу. Там и дагэтуль дзень стаіць прыгожы помнік з крыжам і распяццем, а таксама з выдатна выкананым металічным гербам «Рох III» — гэта родавы герб Сузінаў і Касцюшак. Значыць, тут пахаваны і два прадстаўнікі Сузінаў? Вось тут і ўзнікае пытанне, хто яны? Можна толькі тэарэтычна прадказаць, таму што ў пачатку 50-х гадоў «актыўныя атэісты» ад мясцовай улады «затынкавалі» усе надпісы на помніку і на трох надмагільных плітах. Многія мае землякі памятаюць, што былі надпісы на самім помніку і на трох склепавых плітах (на іх і сёння таксама ёсць гербы) былі надпісы на лацінскай мове. А што было









напісана — ніхто ўжо не памятае. Мая вялікая просьба да ўсіх тых, хто можа расказаць пра таямніцы пахаванняў, пра якія людзі ведалі з 1874 года і па 1950-я, — ці можа ў некага захаваўся фотаздымак ля помніка? Хацелася б, каб надпісы з'явіліся на помніку або на новай пліце і на магільных дошках. Ведаю, што сёння існуе тэхніка, якая можа прачытаць і затынкаваныя надпісы, можа нехта параіць, як можна гэта зрабіць? Я ведаю, што існуюць турыстычныя маршруты і ў Астрамечава, куды ўваходзіць і наша царква. Было б добра, каб наведвальнікі знаў, хто пахаваны пад такім прыгожым помнікам.

А Юзэф Ігнацій Пузына з'яўляецца дзедам знакамітага паэта і гісторыка Юзэфа Эдварда Пузыны (24.09.1978 — 20.01.1949), які працяглы час жыў у сядзібе Грымяча, а ягоны бацька — Юзеф Адольф Марцін Пузына (26.02.1846 — 1914) — нарадзіўся і жыў таксама ў сяле Астрамечава.

Вы запытаеце, а чаму ля царквы пахаваны тыя асобы, якія не адносіліся да святароў? Наколькі я памятаю расказы дзядоў і прадзедаў у 50–60-я гады, то пахавалі іх ля царквы ў знак вялікай удзячнасці і пашаны за тое, што яны ахвяравалі вялікія грошы на яе будаўніцтва (прыкладна 2/3 ад кошту) і дапамагалі звозіць коньмі з маёнтка вялікія камяні з палёў, якія майстры ля царквы калолі, абраблялі і ўкладвалі ў сцены. У тыя часы мне мой прадзед Андрэй па мянушцы Каваль — так яго звалі ўсе у вёсцы і якім ён быў і сапраўды — гаварыў: «Ты думайш, шо всі паны булы такыйі, як вам кажуть у школі...»

Канечне, я яму не мог нічога пярэчыць. Дарэчы, яго хата знаходзілася ў 200 метрах ад сядзібы апошняга з Пузынаў — Володзімежа Пузыны (1914–1939). Тут былі прыгожы двухпавярховы будынак (ён і сёння прыгожа выглядае дзякуючы кіраўніцтву СВК «Астрамечава»), дзве сажалкі — па 100 метраў у дыяметры, вакол «альшына» — так усё насельніцтва называла вольхавыя пасадкі канца XIX стагоддзя гектараў на 17–20, сквер, уязная алея, брама, сад, дрэвы-інтрадуцэнты — незвычайныя клёны, 10 піхтаў, рознае кустоўе, прывезенае з розных краін свету.

Дарэчы, на цвінтары пахаваны таксама знакавыя асобы: Раманскія муж і жонка, дзеці якіх — Мікалай і Сяргей — мелі прамое дачыненне да адкрыцця адной з першых вясковых бібліятэк на Беларусі ў 1905 г. (былі карэспандэнтамі «Нашай Нівы», дзякуючы ім мы маем шмат матэрыялаў, прысвечаных нашай вёсцы ў 1906–1915 гг.). Ёсць помнік Парфенюку Анатолю Сцяпанавічу, расстралянаму немцамі ў лістападзе 1942 года за сувязь з партызанамі, ягонай памерлай сястры. Мае галоўныя два пытанні да чытачоў — маіх землякоў:

1. Можа ў кагосьці ёсць фотаздымкі гэтага помніка з надпісамі 1925, 1939, 1949 гадоў ці матэрыялы старых газет (1870–1900), якія выходзілі ў Брэсце?

2. Можа хто сустракаў матэрыялы, якія датычаць радаслоўнай рода Сузінаў (Астрамечаўскую галіну)? Жылі Сузіны і ў в. Хадосы на Камянеччыне і ў другіх мястэчках Беларусі.

З найлепшымі пажаданнямі ўсім вам і вашым сем'ям ветэран педагагічнай працы, краязнавец, ураджэнец в. Астрамечава Брэсцкага раёна — Іван Аляксеевіч Панасюк.

P.S. Калі нехта з чытачоў будзе мець, што паведаміць мне, даю свае тэлефоны: тэл.: 8(016) 47-2-30-35
маб.: 8(029) 6-41-47-61
e-mail: Pap-pro @ tut.by

Гэта некалькі маіх зборнікаў у інтэрнэце, можаце з імі азнаёміцца, калі ласка:
http://luninec.hmarka.net/veluta
http://luninec.hmarka.net/palesse
http://astramechava.hmarka.net
http://luninec.hmarka.net/internat
Книга «Интернат ты наш, интернатушка...»

*Вяселле на Берасцейшчыне*

# Перадшлюбны перыяд



***Іна Швед,***
*доктар філалагічных навук,*
*прафесар кафедры беларускага*
*літаратуразнаўства*
*БрДУ імя А.С. Пушкіна*

Першаступеннасць задачы ўладкавання шлюбных адносінаў усведамлялася жыхарамі Берасцейшчыны, як і іншых рэгіёнаў Беларусі, здавён. Вяселле як «сярэдзінны» «пераходны» (вяселле як ritedepassage) абрад жыццёвага цыклу ў традыцыйным грамадстве з'яўляецца адзіным спосабам заключэння шлюбу, рытуальнай і сацыяльнай легітымізацыі сям'і і народжаных у ёй дзяцей. У міфапаэтычным плане вяселле трактуецца як «першасвята», падчас якога пры пасрэдніцтве Бога, сакральных сілаў рэалізуецца трохчастковы пераход «жыццё — смерць — новае жыццё». У выніку гэтага сцвярджаецца новы парадак у соцыуме і Сусвеце. Адсюль кантраст паміж першай і другой часткамі вясельнага абраду: першая — сумная — прысвечана сыходу-смерці (у першую чаргу, нявесты-дзяўчыны), а другая, радасная, пасля шлюбнай ночы — прыходу-адраджэнню маладой у якасці замужняй жанчыны, нараджэнню якасна новых людзей – мужа і жонкі, якія ўтвараюць новы сацыяльны феномен — сям'ю.

Традыцыя (і царква) не ўхваляла ўтварэнне сям'і прадстаўнікамі розных сацыяльна-класавых слаёў, абмяжоўвала колькасць уступленняў у шлюб да двух. Яшчэ і сёння лічыцца, што нельга браць шлюб хросным бацькам, што мужчына не павінен ажаніцца з сястрой сваёй жонкі-нябожчыцы: *«...Маты ёго [мужа інфарманткі] пошла на сыстрынэ місцэ жыты. І батюшка*

*нэ схотів вынчаты іх, бо нэ полагалося, это нэ положэно, на сыстрынэ місце нэ пуложэно було — закон такій, шоб сыстра нэ лягала пуд мужыка — это нэправільно»* (Лышчыцы Брэсцкага р-на[1]). Звычайна малодшы сын ці дачка не бралі шлюб раней за старэйшых, толькі малодшай сястры дазвалялася выйсці замуж раней за старэйшага брата. Дачка, якая знаходзілася ў апошніх фазах паўналецця, нярэдка карысталася living рознымі палёгкамі: на яе прыданае працавала ўся сям'я, ёй давалі лепшую вопратку і іншыя рэчы, яна вызвалялася ад некаторых працоўных абавязкаў і магла гуляць уначы. Калі яе малодшая сястра мела больш выйгрышныя якасці (прыгажосць, уменне спяваць і таньчыць, розум, гаспадарлівасць і пад.), яе трымалі ў цені да замужжа старэйшай сястры. Прыгоднымі для стварэння сям'і лічыліся пятнаццацішаснаццацігадовая дзяўчына і хлопец, старэйшы за яе на год-два. Ідэальная шлюбная пара — гэта «роўня» паводле ўзроставага крытэрыю, і гэта сцвярджаецца ў песнях пра каханне.

Людзі, якія выходзілі за вызначаную пэўнай лакальнай традыцыяй верхнюю мяжу ўзяцця шлюбу («перастаркі», бабылі), траплялі ў катэгорыю сацыяльна непаўнавартасных, «незавершаных» людзей. Яны асацыяваліся з прадстаўнікамі расліннага і жывёльнга свету: 30-гадовага халасцяка называлі саламяны мужык (што адсылае да значэнняў старасці, сухасці, далучанасці да іншасвету), а дзяўчыну, якая заседзелася ў дзеўках да ступені «драўлянасці-нерухомасці», — «надолба»; пра халастога гаварылі, што ён ходзіць як бугай (параўн. вясельную песню, у якой старшы баярын «бегае за дзевачкамі, як бык»). Прадстаўнікі названай катэгорыі былі абмежаваныя ва ўдзеле ў рытуальна-абрадавым жыцці соцыуму — бабылёў не запрашалі ў кумы, дзевак-перастаркаў у адведкі, незамужніх у каравайніцы, павітухі і да т. п. На Брэстчыне вялікай ганьбай лічылася прозвішча «Дзявоцкі Кароль», якое давалася старой дзеўцы (г. зн. пераведзенай адразу са стадыі маладосці ў стадыю старасці, мінуючы паўналецце). Разам з тым парушэннем парадку лічылася сужыццё пары, якая не ўзяла шлюб, пазашлюбныя дачыненні жанатых людзей. Адмоўна ацэньвалася ранняя сексуальная актыўнасць мужчын, ад чаго, як лічылася, яны губляюць валасы, — узгадаем «прыпеўку пад кракавяк»: *«А чого ж тэ лысы, // Быз волос остався? // Потому шо рано // З дывкамы познався»* (Пагубяцічы Брэсцкага р-на). Актыўная не па гадах сексуальнасць старых адмоўна ацэнена ў казках пра старых уладароў, якія маюць дарослых сыноў і пасылаюць іх за «маладзільнымі» сродкамі — яблыкамі, жывой вадой, маладой нявестай, але імкненне вярнуць сексуальную патэнцыю вядзе іх да смерці.

У выніку вяселля змяняецца сямейны, родавы, сацыяльны статус не толькі маладых, але і ўсіх удзельнікаў абраду, які адмыслова арганізуе рытмічную рэпрадукцыю роду, змену пакаленняў, падтрымлівае структуру грамадства, вызначае яго будучае. Таму шлюб з'яўляецца адной з найважнейшых традыцыйных каштоўнасцей, зрабіць вяселле сваім дзецям — ці не галоўны клопат і абавязак сям'і. Так, паводле вясельных песень, бацька жаніха *«радый був, як сынка вродывся, тэпэр радніййшы, шей высылійшы, шо вжэ й ожынывся»* (Тэльмы Брэсцкага р-на). Разам з тым

[1] Усе прыведзеныя матэрыялы захоўваюцца ў Фальклорна-этнаграфічным архіве вучэбнай фальклорна-краязнаўчай лабараторыі БрДУ імя А.С. Пушкіна (кіраўнік І. Швед), а таксама ў фальклорным архіве Метадычнага цэнтра (кіраўнік Г. Петрукові) аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі (кіраўнік Л. Балашова) Брэсцкага райвыканкама.

сем'і праз шлюб намагаліся ўзмацніць свой дабрабыт і падняць сацыяльны статус. Нават паміж прадстаўнікамі аднаго класавага слою заключэнню шлюбу магла перашкаджаць беднасць аднаго з закаханых (часцей юнака), паколькі бацькі, клапоцячыся пра дабрабыт дзіцяці, марылі знайсці яму пару «з багатых», прычым асноўным багаццем для селяніна была зямля, а таксама свойская жывёла. У гэтым плане характэрны словы прыпевак: *«Я хотела выйті замуж — // Мать каровы ні даёт, // А жыніх такой папался — // Без каровы ні бірёт»* (Пагубяцічы Брэсцкага р-на). Увага на праблематычнасці шлюбу без пасагу (свойскай жывёлы) акцэнтуецца ў лірычных песнях тыпу: *«— Ой, дівчыно, сэрцэ мое, // Чы ты выйдэш за мэнэ? // Ны пійду я за тэбэ, // Нэма хаты ў тэбэ, у тэбэ...»* (Чэрні Брэсцкага р-на). Арыентацыя на высокі маёмасны, сацыяльны статус жаніха магла маргіналізаваць крытэрыі яго ўзросту (уступленне ў шлюб дазвалялася да 80-ці гадоў), знешняй прывабнасці і інш. Тое ж яшчэ ў пасляваенны перыяд адзначалася і для выбару жонкі, якая магла быць старэйшай за мужа, калі была багатай, працавітай, увішнай і пад. Дзяўчына — дачка шанаваных бацькоў, якія за ёю давалі добры пасаг (новую хату, скаціну, пчол, грошы, асабістыя рэчы і вялікі, больш за гектар, зямельны надзел), мела шмат сватоў, а значыць, магчымасць шырокага выбару шлюбнага партнёра. *«Як дівчына була богата, конечно, і хлопцюв було більш»* (Лышчыцы Брэсцкага р-на). Гонарам для маці хлопца было ўзяць багатую нявестку. Важную ролю адыгрывала і вядомая ўсяму наваколлю «слава» роду дзяўчыны, яе здароўе, прыгажосць, уменне клапаціцца пра блізкіх, працавітасць, якая, зразумела, была звязана з дабрабытам. Выгадным жаніхом лічыўся працавіты, разважлівы, няп'ючы хлопец з заможнай сям'і.

Вынікам разліку бацькоў магло быць тое, што да вянца маладыя не ведалі адзін аднаго. Між тым далёка не заўсёды дзяцей па разліку выдавалі бацькі ці паны, нярэдка маладыя жаніліся па любові, і беднасць не была перашкодаю, а хутчэй, наадварот, стымулявала да суладнай пабудовы сямейнага жыцця: «[Як выбіралі шлюбную пару?] — *І по любові було, і по богацтвы було. Алэ булы і біднішы. Алэ ж богаты як жэнілісь... А богаты люды — то рогаты люды, знаетэ, то нывэльмы шо там доброго і тэпэр, і колысь. А біднішы — угоднішы булы люды. То побыруцця і бідны, а потом так росстрояцця! Дружно самы жывуть. І всё ў іх дружно получалося в жізні. І дітэй було мніго, і давалы всім рады, і вучылы, дажэ в Варшаву одправлялы учытыся діты, куторы хутілы. А куторы ны хутілы — ну булы і лоботрясы, булы і лынтяі, ны вэльмы хутілы вучытысь»* (Лышчыцы Брэсцкага р-на). З павагай гавораць пра дабрадзейнага жаніха, які хоць і не меў бацькоў, але змог зрабіць добрае вяселле: «[Хоць жаніх — сірата], *купыв для невесты і вэлёна, і платте, і чулкы. І сірота був, і свадьбу зробыв, всю родыну зозваў, о!*» (Лышчыцы Брэсцкага р-на).

Праграмаванне сямейнага жыцця дачкі пачынаецца «з пялюшак» (каб дзяўчыну любілі хлопцы, яе пры нараджэнні загортвалі ў бацькоўскую вопратку) і нават раней, калі пупавіну пераразалі на «жаночых» прыладах працы, каб была добрай рукадзельніцай (уменне прасці і ткаць — галоўныя крытэрыі якасці палавой спеласці дзяўчыны). Выхаванне падлеткаў, у першую чаргу дзяўчат, актыўна скіроўвалася на забеспячэнне шчаслівага сямейнага жыцця, нараджэнне добрых нашчадкаў. Усяляк намагаліся пазбегнуць няўдачы

ў шлюбе, сямейным жыцці. Так, лічылі, што *«ныможна дівчынам пырыступатэ дэрево, пынёк, бо дітэ будуть ны жывучыя»* (Прыбарава Брэсцкага р-на). Дзяўчыне забаранялі сядзець на стале (ці яго куце), бо яе нібыта чакае няўдача ў замужжы. Дзяўчыне з мокрым падолам пагражаюць, што яна выйдзе замуж за п'яніцу. Тое ж чакае яе, калі фартух на жываце часта мокне. Гаварылі, што пашчасціць у шлюбе той дзяўчыне, якая стала кумой у нованароджанага хлочыка ці «байструка» (Брэст). Пэўных перасцярог у адносінах да дзяўчыны павінны прытрымлівацца іншыя людзі, прыкладам, забаранялася абмятаць дзяўчыну венікам. Важнае значэнне надавалася палавой сімвалізацыі дзявочага паўналецця — прычоска, вопратка, упрыгажэнні, звычай бяліцца-румяніцца, абрады скакання ў жаночую вопратку, падкрэсліванне палавых прыкмет рознымі спосабамі. Каб звярнуць на сябе ўвагу процілеглага полу, дзяўчына павінна быць прыгожай, і на гэта скіраваны многія магічныя акты.

У перадшлюбны перыяд моладзь дэманстравала сябе, сваю вопратку, прыглядалася адно да аднаго на кірмашах, у царкве ці касцёле, на вясковых святах і іншых масавых гуляннях, куды выбіраліся, «каб сябе паказаць і другіх паглядзець». Шматлікія звычаі рознай каляндарнай прымеркаванасці скіроўваліся на знаёмства і міжпалавую камунікацыю моладзі, на актывізацыю яе шлюбна-эратычнага патэнцыялу — моладзевыя забавы на арэлях, ваджэнне карагодаў, юр'еўскае качанне-кулянне парамі па ніве, скокі праз вогнішча ў Купальскую ноч. Шлюбную скіраванасць мелі таксама каляндарныя абыходы хат моладдзю, якая ў гэты час прадстаўляла сябе ўсяму калектыву і якая сама атрымлівала магчымасць ацаніць заможнасць, умовы жыцця адзін аднаго. Падчас такіх «грамадскіх агледзінаў» выглядалі пару для сваіх дзяцей і бацькі. Вядомы і непасрэдныя абвесткі пра гатоўнасць дзяўчыны да шлюбу — бацька дзяўчыны шлюбнага ўзросту мог вазіць яе па вёсцы і паведамляць, што яна паспела.

Наблізіць тэрмін шлюбу намагаліся і праз зварот да спецыяльных рытуалаў, магічных практык. Малітве і магіі з любоўнай семантыкай у Пакроў надавалася лёсавызначальнае значэнне «закляцця на шлюб», асабліва заседзеўшыміся ў чаканні сватоў дзяўчатамі, якія гатовыя былі ісці замуж за абы-каго. Дзяўчыты прасілі: *«П'ятёнка, оддай мэнэ, матёнка (по-Божому это Петедісятніца будэ)»* (Лышчыцы Брэсцкага р-на). Да Параскевы-Пятніцы, Пятніцы, дзяўчаты апелікавалі, каб даведацца пра свой лёс, суджанага (якога назывлі «доля»). Для гэтага перад сном пыталіся: *«Пятніца, пятніца, мілая сестріца, кто меня любіт, пусть мне пріснітся»* (Брэст).

Увогуле распрацавана цэлая сістэма прагнастычных тэкстаў — варожбаў, прыкмет, прадказанняў, тлумачэнняў сноў, скіраваная на атрыманне зашыфраванай у прасторавых, лічбавых, прадметных, акустычных знаках інфармацыі пра час, месца, характар магчымага шлюбу. Пераважна ў рэчышча вясельнай тэматыкі скіравана трактоўка сноў дзяўчат і іх маці: *«Если парень снится, что венок тебе подарил с цветов, то обязательно замуж выйдешь»* (Нехалсты Брэсцкага р-на). У прагнастычных тэкстах асаблівая значнасць надаецца сімволіцы парнасці: *«Як мэні сон снывся, як я мелася выйты замуж. Ну, о так о снытся мэні. Я выйшла на Полескій с поязда і такая ргіня, і такая ргіня! А ў мэне е одна. Я тоды вот трымаю ў руках, а там така красівая. Я вэрву собі другу, будэ дві такіх тых о*

*красівіе. І ў мэне дві яргінькі. І мні сказалы сразу: «О, ты замуж зарэ выйдэш!». Правільно, прыезжаю з ночы додому, а вжэ маты кажа, шо ой, гутуйся, бо ж это прыіхалы [сваты]. І, кажа, это, паспорта взеў, і бацько дорогу хрыстыў, казаў яму: «Всё, пойдытэ роспысватыся!». Я хутчій выбіраюся, всё. І там воны побылы трохі і прыходзяць, і два свідзетелі і было іх два. І мы пошлы ў сельсавет, гэто Бурысік Іван роспысваў. Это прысідацель буў»* (Ляплёўка Брэсцкага р-на).

# Без рушника тканого не будет свадьбы званой

## ЗОЛОТЫЕ ПРАВИЛА ВЫШИВКИ СВАДЕБНЫХ РУШНИКОВ



Рушник с голубями. Вышила Стасевич Анна Фоминична из д. Колодное Столинского района. Этнографический уголок Татьяны Босацкой, п. Мухавец

Нельзя украшать рушники мережками — жизнь будет дырявой.

Нельзя вышивать свадебные рушники ночью — в это время суток вышивают только магические вещи.

Рушник — это дорога жизни, поэтому полотнище его должно быть целым и непрерывным, как жизнь (не вставляйте в середину рушника никаких кружев, тесемок — этим вы только навредите, разрезанную жизнь уже не сошьешь, как бы ни старался).

На свадебных рушниках вышивают пары таких птиц, как сокол, индюк, павлин, петух (только не в боевой стойке). Не вышивают кукушек — вдовий символ, соловьев — символ неженатых парней (чтобы муж не изменял).

ПЕРВОЕ правило, которое должна соблюдать девушка, решившая вышить себе рушник, — сделать это так, чтобы обе стороны рушника — лицевая и изнаночная– были идентичны. Ведь лицевая сторона — для людей, а изнаночная — для Бога. На первой — наши действия, а на второй — мысли, и они должны совпадать. Если же с изнаночной стороны нитки перепутаны и торчат узлы,






Все три рушника вышила Светлана Алексеевна Альфер, д. Знаменка

то и жизнь у такой пары будет красивой только для людей.

Все размеры рушника (ширина, длина) должны делиться на семь.

Вышивкой должна быть заполнена 1/4 каждой половины рушника.

Центр рушника обязательно должен оставаться пустым, без вышивки, — божье место. Становясь на рушник, молодые получают благословение свыше. Свободная от узора часть олицетворяет связь с космосом. Об этом следует помнить, компонуя элементы орнамента на свадебном рушнике. Если не знать этого, то может случиться, что добрая и искренняя по форме надпись-пожелание на самом деле будет вредна для молодоженов. Поэтому вышивая свадебный рушник, надо следить, чтобы на пути небесного благословения к молодой семье не было никаких символических препятствий.

После свадьбы рушники хранятся в семье молодых как символ счастливой семейной жизни в скрученном в трубочку виде, чтобы всякая нечисть по кругу походила и поняла, что здесь ей нечего делать.

Рушники, особенно под ноги, используют один раз! В случае очень счастливой семейной жизни в наследство передают только узор, а рушник вышивают новый.

Рушники не берут напрокат — вы же судьбу не берете напрокат.

Рушник под ноги — самый главный на свадьбе, именно он решает, как сложится дальнейшая жизнь жениха





Рушник со словами «років» — Колчук Агафья Харитоновна, Романовские хутора Брестского р-на.

и невесты. На этом рушнике нельзя вышивать пару птиц, которая символизирует молодых, пожелание «На счастье!», цветы, кольца — когда молодожены стоят на таком рушнике, затопчут все, что могло быть хорошего в их жизни. Самый оптимальный вариант вышивки — геометрический узор или растительный орнамент (гроздья винограда — это символы семьи, достатка, благополучия; калины, желуди, дубовые листья). Это ограничение появилось недавно — с момента, когда молодые перестали становиться на рушник коленями, а начали становиться ногами. Если же Вы планируете становиться на свадебный рушник коленями, то можно вышивать и птиц, и цветы.

Желательно, чтобы этот рушник вышивала сама невеста и при этом сделала 10 различий на концах рушника (на мужской и женской стороне). Сторону, которую вышивают первой, следует считать мужской, она вышивается с большим желанием, поэтому и заряд у нее будет положительный (все идет от основ жизни — в этом вековая мудрость). Если девушка начала вышивать рушник сама, нельзя, чтобы ей помогали мать или сестра — зятя отошьют (отвадят).

Рушник под каравай, хлеб-соль — самый неограниченный в выборе узора. Именно на этом рушнике вышивают пару птиц, целующихся клювиками, пожелания, деревья рода и море цветов, чтобы жизнь новобрачных была успешна счастьем, радостью и цветами.

Рушник связывать руки — раньше использовали чисто белый (можно вышить белым), чтобы жизнь была безоблачной, или вышитый только красными нитками — на радость.

Наименьшее необходимое количество рушников для свадьбы — пять:



Рушник из Малоритского р-на. Этнографический уголок Татьяны Босацкой, п. Мухавец



Калишук из д. Заболотье Брестского р-на

Вышитый свадебный рушник как бы «программирует» будущую жизнь семьи, несет в себе определенные пожелания относительно будущего, которые высказывает вышивальщица. Но для этого существует одно очень важное условие — человек, который вышивает, должен знать содержание символов, должен быть сам доброжелательным и вышивать его с добрыми намерениями. Отсюда идет одно очень важное условие: свадебные рушники каждая девушка должна вышивать СОБСТВЕННОРУЧНО.

Заказывая свадебный рушник кому бы то ни было другому, будущая жена рискует внести в будущее своей

- рушник, на который становятся молодые при венчании;
- рушник на иконы для жениха и невесты;
- рушник для перевязывания рук молодой паре;
- рушник под каравай.

Орнаменты рушников для икон отличаются для жениха и невесты. Общим элементом для обоих рушников являются виноградные листья с гроздьями, которые символизируют достаток в доме. Кроме общих элементов, на «мужском» рушнике вышивали дубовые листья и желуди, что символизировало мужскую силу, а на «женском» — калину, символ женского начала, продолжение рода, и лилии — символ любви и красоты.

На рушнике под каравай помимо других узоров с середины XX ст. вышивают и свадебные кольца, но каждое кольцо не должно быть замкнутым. Рушник на руки молодым в идеале должен объединять женские и мужские рушники из икон, а также может дополняться птицами (символ молодой пары) и цветами или цветочными орнаментами.



Колчук Агафья Харитоновна

супружеской жизни чужие мысли и желания, которые могут быть и недобрыми. Да и вышивая собственноручно, необходимо следить за собственным настроением, вышивать рушник в хорошем расположении духа, не допуская плохих мыслей. Если же во время работы на вас находят негативные эмоции — лучше отложить ее на некоторое время и вернуться к вышивке тогда, когда настроение улучшится. В процессе работы следует время от времени проговаривать молитву.

Для свадебных рушников очень важным является выбор материала. Свадебный рушник не должен иметь обрезанных по бокам краев, потому что, по легенде, нитка, ткущая рушник — «как судьба, должна ходить слева направо и не должна обрываться». Достаточно часто встречаются обрезные рушники, в которых длинная сторона обработана мережкой или просто подрублена. Такой рушник нельзя использовать для свадебных обрядов, потому что каждая оборванная или обрезанная нить по краю указывает на ссору молодой пары или на проблемы со здоровьем мужа или жены.




Рушник с буквой Т — Босацкая Татьяна Васильевна, п. Мухавец Брестского р-на



Рушники с розочками (красный + черный цвет) — Жминько Александра, Романовские хутора Брестского р-на

В любом орнаменте свадебного рушника обязательно должен присутствовать знак, напоминающий по форме крест. Он может быть как вышитым отдельно, так и вплетеным в композицию. Сам по себе крест является оберегом для рушника, поэтому он присутствует на всех вышитых рушниках, не только на свадебных. Но в свадебном рушнике крест или крестоподобный знак имеет еще и другое, особенное значение. Этот знак магический. Он благословляет пару на создание семьи. Ведь крест является давним символом единения отцовской солнечной и материнской влажной энергии.

# НАРОДНЫЯ ПЕСНІ ПРЫБУЖЖА

## ЗБОРЛІВЫ ВЭЧОР СУБОТА

Збирная суббота настала,
Верочка подружки собрала,
И посадовыла родомы
По-за тысовымы столамы,
А сама сила мыже их,
Поклала рученьки на стил.
— Ой, ручки мои билэньки,
Чы будэтэ ў свикорка такэнькы?
Почуў усё гэто свикорко.
— Уставай, нывысто, ранэнько,
Мый свои ручэньки билэнько,
Иды ны до тяжкой роботы:
Сырую пшыныцю молоты.

* * *

З-пид зылёного гаю,
З-пид зылёного гаю
Сывый кинь выбыгае,
Сывый кинь выбыгае.
Ны быжы туды, коню,
Ны быжы туды, коню,
Дэ секуть, дэ рубають,
Там же нас ны прымають.
А быжы туды, коню,
Дэ грають, дэ спивають,
Там же нас пиджидають,
Столыки застылають.
Столыки застылають,
Мёд-выно налывають,
Сюд-ны-туд выбыгають,
Диток о венцю пиджидають.

*Запісана ад Амелянюк Ганны,*
*в. Максімы Брэсцкага раёна*

* * *

Лэтилы галоньки ў тры раданьки,
Зузулька напэрэди.
Уси галоньки по корчах силы,
А зузулька на калыну.
Уси галоньки зашчибиталы,
Зузулька закувала.
Ой, чую куеш, чую жалуеш,
Сывая зузулэнько,
Ой, чы жаль тэби тэмного бору,
Чы гирки калынэньки?
Ой, нэ жаль мэни тэмного бору,
Гиркеи калынэньки,
Тылько жаль мэни полытаннечка,
Шчырого куваннечка.
Идуть дивочки ў тры радочки,
Наденька напэрэди.
Уси дивчата заспэвалы,
Наденька заплакала.
Ой, чую плачыш, чую жалуеш,
Молодая Наденька,
Ой, чы жаль тоби матюнки свои,
Чы пудвир'ечка еи?
Ой, нэ жаль мэни мэи матеньки,
Пудвир'ечка еи,
Тылько жаль мэни русэй косы —
Дэвоцькэи красы.

*Запісана студэнткай Ульяніцкай В.І. ад Нікалаюк Надзеі Герасімаўны (1909 г.н.), в. Плоска Брэсцкага раёна*

# БАЛАДНЫЯ ПЕСНІ

Аддала мяне маці тай далёка ад сябе,
Прыказала мне не быці сем лет у яе.
Ой, жыву я лецейка, жыву я ўжо два,
А на трэце лецейка стала нудна мне.
Ой, пазычу я, пазычу ў зязюлькі крылец,
І палячу я, палячу да маці ў садэць.
Ой, як стану куваці, увесь сад аглушу.
А як стану плакаці — увесь лісток абмачу.
Чуе тое маці, па ваду ідучы,
А найстарэйшы брацік коніка вядучы.
Падай, мая мамачка, той дубовы другок,
Заб'ю, заб'ю зязюлю тай у правы бачок.
Не бі, сынку, зязюлю тай у правы бачок:

Няма майго дзіцяці ўжо трэці рачок.
Як шэрая зязюлька — паляці ў бор куваці,
Як мая сястра — то прашу дахаты.
Як шэрая зязюля — то ляці ў бор куючы,
Як мая сястра — то мёд, віно ў шклянцы.

*Запісана ад Місіюк Марфы К. в. Астрамечава Брэсцкага раёна*

## ПАРТЫЗАНСКІЯ ПЕСНІ

На опушке леса старый дуб стоит,
А под этим дубом партизан лежит.
Он лежит, не дышит, он как будто спит,
Золотые кудри ветер шевелит.
Рядом с ним старушка, мать его сидит,
Слёзы проливает, сыну говорит:
— Я тебя растила, но не сберегла,
А сейчас могила будет здесь твоя.
Я вдовой осталась, пятеро детей...
Ты наш самый младший, милый мой Андрей.
Ты когда родился, фриц отца убил,
Где-то под Одессой он голову сложил.
Ты был лейтенантом, в армии служил,
Орден со звездою на груди носил...
Средь опушки леса старый дуб стоит,
А под этим дубом партизан зарыт.

*Запісана студэнткай Сцельмашук З.П. ад рабочага г. Брэста Сцельмашука Уладзіміра Паўлавіча*

## СЯМЕЙНЫЯ ПЕСНІ

У вышнёвым садочку голубы лытають
Ише роскошы ны зажыла,
Вжэ лита мынають.
Роскошы ны зажыла, гора ны забуду.
Почим я вас, лита мои, спомынаты буду?
Закладайтэ, хлопцы, коны вороные,
Поийдэмо наганяты лита молодые.
Нагонылы лита на калыновум мосци.
— Ой, вэрнитэсь, лита мои,
Хоть до мэнэ у госци!
— Вжэ мы ворочалысь,
Булы в тэбэ в хаты,
Було тоби замуж нэ йты, мужа выбэраты.
Выбрала мужа якого схотила:

Шумыть-гудэ нагаинька куло твого тила.
Нагайка друтяна, шолком пэрыбрана,
Ше я, молодая, зроду нэ карана.
Нагайка дротяна шолком пэрэвыта,
Ше я, молода, зроду нэ быта.

* * *

А муй батька як цвит зав'язаў мэни свит,
Моя маты, як зора, рано замуж оддала.
У далёку сторону, у вэлыку сэм'ю.
А вэлыкая сэм'я сила вэчэраты вся,
А мэнэ, молоду, посылают по воду.
По водыцю я иду, як голубка гуду,
За дрибными слёзонькамы
Крынычэнькы нэ найду.
И крынычэньку нашла,
И водыци набрала,
Хоть нэ поўнэ выдэрэчко,
То слюзамы долыла.
Од водыци ишла, той наплакалася.
Под укэнцэ прышла, той наслухалася
Чую, чую гомонять,
Мылынького наводять:
— Ой, ты, сынку, мой сын,
Чом горилки ны п'еш,
Чом ты жинки ны б'еш?
— Ой, нашчо еи быть,
Колы вмие всё робыть?
Чого она нэ ўмие,
Трэба еи научить.
Ой, выйду я, молода,
За новыи ворота.
Сюды гляну, туды гляну — всё чужая сторона.
Бачу, батько идэ и сто грошы нэсэ,
Хочэ мэнэ, молоду, выкупыты додому.
— Вэрныс, тату, додому, схавай грошы ў кумору,
Твои грошы пропадут, мэнэ назад нэ дадуть.

*Запісана студэнткай Ульяніцкай В.І. ад Валынчук Марыі Раманаўны,*
*в. Плоска Брэсцкага раёна*

## ОЙ, КАЖУЦЬ ЛЮДЗІ...

Ой, кажуць людзі мой муж добры,
Ой, каб ім жа быў такі век доўгі.
Ой, кажуць людзі, мой муж не п'е,

А ён да дня прапіў каня.
Прапіў каня варанога,
Прышоў да стайні да па другога.
Прышоў дадому расхадзіўся,
Перада мною пажурыўся:
— Мілая мая, выкуп каня,
Выкуп коніка варонага,
Мяне са стыду малодага.
Не раз, не два выкупляла,
Шолковы платок закладала,
Цераз аконца ўцекала,
У вішнёвым саду начавала.
У вішнёвым саду начавала,
З салавейкам размаўляла.
Зязюленька «Ку-ку»
А я малада цярплю муку.

*Запісана ад Плісюка Афанасія Нікіціча (46 гадоў),*
*калгас імя Сталіна Брэсцкага раёна*

## ЛЮБОЎНЫЯ ПЕСНІ

Ой, там на гары, ой, там на крутой,
Ой, там сядзела пара галубоў.
Сядзелі яны, любаваліся,
Правым крылышком накрываліся.
Дзесьці ўзяўся ахотнік-стралец,
Ахотнік-стралец, Ванька-мудрэц,
Голуба забіў, галубку злавіў,
Узяў пад палу, занёс дадому,
Насыпаў пшанца аж па каленца,
Наліў вадзіцы аж па крылыцы.
Галубка не есць, галубка не п’е,
Пад крутую гару ўсё плакаць ідзе.
— Ой, ёсць у мяне семсот галубоў,
Ідзі, выбірай, які голуб твой.
— А я хадзіла і выбірала
Няма таго, што я кахала.
А мой маленькі, чорнабрывенькі,
Лічыко белае, сам румяненькі.

*Запісана студэнткай Рудскай М. ад Кандрацюк Лізаветы,*
*в. Астрамечава Брэсцкага раёна*

* * *

Ой, сядзела дзеўчына край окэнця,
Выглядала дзеўчына чорнаморця.
Чорнаморыць, маманька, чорнаморыць,
Вывёў мяне босую на марозыць,
Вывёў мяне босую тай пытае:
— Чы есць мароз, дзеўчыно, чы нымае?
Ой, думала, мамонько, панаваці,
Чаравічок з белых ножак не скідаці.
Цяпер прышлося, мамонько, горэ знаці,
На чужой старинцы жыта жаці,
Дробнымі слёзанькамі ўмываці.

*Запісана ад Місіюк Марфы, в. Астрамечава Брэсцкага раёна*

## СІРОЦКІЯ ПЕСНІ

Ой, хто ж то, хто ж то
У зылёным лису гукае?
А то Зосечка свую матюнку шукае.
Ой, зашла вуна ў широку дулыну
И знайшла вуна своей матёнки мугылу.
— Устань, устань, муя матюнка, ду мэнэ,
Бо ныма ныц пурядочку быз тэбэ.
— Ой, ны встану я, дитятко, ду тэбэ,
Есть у тэбэ матюнка, хай вона
Всей порядочок наводыть.

*Запісана ад Дзямешка Еўдакіі Іванаўны (40 год ў 1960 г.),*
*в. Каростычы Брэсцкага раёна*

* * *

Соловийко рабэнькы,
Маеш голос тонэнькы,
Нэ шчэбэчи на окни,
Нэ задавай жалю мни,
Шо я ў чужуй сторони,
Бэз родоньку, бэз родни.
Одбиласа я од роду,
Як той камэнь у воду.
Камэнь у води полэжить,
Мни бэз роду трудно жить.
Ой, пойду я гукаты,
Шчасця-доли шукаты.
Усю краину ўбыйшла,
Шчасця-доли нэ найшла.

Нашла ў поли долыну —
Свого батэнька могилу.
Стала плакать-голосыть,
Свого батэнька просыть:
— Устань, тату, до мэнэ,
Трудно жыты бэз тэбэ.
— Ой, нэ встану, нэ могу,
Головоньку нэ звэду.

*Запісана студэнткай Ульяніцкай В.І. ад Валынчук Марыі Раманаўны, в. Плоска Брэсцкага раёна*

## РУСАЛЬНЫЯ ПЕСНІ

Ходыла Наденька по новым горидцу,
Купала градочки, сияла руточку.
Ставши, посиявши, стала полываты,
Ставши, полывавши, сила спучываты.
Сивши, спучивши, стала нашчытала,
Ставши, нашчытавши, у выночок звыла,
У выночок звыла, на Дунай пустыла,
Хто выночка споймэ, то той мэнэ вузьмэ,
Хвалывся хвалько — молоды Иванко:
— Я выночка спойму, я Надечку вузьму.
Як ступыв ногою — по пояс водою,
Як ступыв другою — на дно головою.
Бэжы ты, коню, сыдлом додому,
Ны кажы ты, коню, шо я ўтопывся,
А скажы ты, коню, шо я ўжэнывся,
Взяв соби жиночку — у моры шчучочку,
Взяв соби музыку — рыбу бэз›языку,
А мои гостоньки — у моры рыбонькы.

Запісана студэнткай Ульяніцкай В.І. ад Саўчук Ірыны Раманаўны (1911 г.н.), в. Плоска Брэсцкага раёна Брэсцкай вобласці

***Заўвага.*** *Матэрыял быў сабраны студэнтамі Брэсцкага педагагічнага інстытута пад кіраўніцтвам прафесара Уладзіміра Калесніка ў 60-х гадах мінулага стагоддзя. Вытрымана стылістыка і арфаграфія аўтарскай мовы. Захоўваецца ў вучэбна-фальклорнай лабараторыі БрДУ імя А.С. Пушкіна (кіраўнік І.А. Швед).*

# На мяжы пазнанага і неспазнанага



Надзея Пашко і Ганна Пачуйка, студэнткі філалагічнага факультэта БрДУ імя А.С. Пушкіна

**Неверагоднае ў жыцці Анастасіі Рыгораўны Каўрыгінай з вёскі Чэрск Брэсцкага раёна**

У жыцці кожнага чалавека бываюць розныя сітуацыі і падзеі, лёс кожнага чалавека па-свойму цікавы і непаўторны. Аднак сустракаюцца і такія людзі, жыццё якіх вельмі своеасаблівае і незвычайнае. Падчас фальклорнай практыкі мы пазнаёміліся з адным такім чалавекам — Каўрыгінай Анастасіяй Рыгораўнай з вёскі Чэрск Брэсцкага раёна. На выгляд зусім непрыкметная, простая жанчына, аднак калі мы пачалі з ёю размаўляць, зразумелі — гэта чалавек з вельмі цяжкім жыццём. Яна раскрыла нам таямніцы свайго сэрца, якое напоўнена болем і перажываннямі.

Усе жыццёвыя перыпетыі Анастасіі Рыгораўны пачаліся тады, калі яна была яшчэ дзяўчынай. Аднойчы са знаёмай сваёй каляжанкі яны сабраліся ў лес па чарніцы. Вырашылі сустрэцца ў абед, на раздарожжы, каля лесу. Паводле народных уяўленняў, поўдзень — час раскрыцця мяжы паміж тым і гэтым светам, такімі месцамі таксама з'яўляюцца раздарожжа, лес. Яны карэлююць з другімі членамі апазіцыі «сваё» — «чужое». У прызначаны час Анастасія з'явілася ў гэтым месцы. Яе сустрэла дзяўчына ў чырвонай куртцы, і яны пайшлі ў лес. Калі аказаліся ў гушчары, збіліся з дарогі, дзяўчына ў чырвонай куртцы знікла, Анастасія засталася сама. Калі яна з вялікімі пакутамі выбралася з лесу, яе чакала сапраўдная дзяўчына, якая павінна была скласці ёй кампанію. Наступным разам Анастасія пайшла ў лес з дзяўчынай-суседкай, якая была дачкой і ўнучкай «чарадзеяў», што яшчэ не раз у будучым прыносілі шмат клопатаў і бедаў у жыццё Анастасіі Рыгораўны. Калі яны, стомленыя, набраўшы ягад, селі адпачыць і паснедаць, то амаль адразу аднекуль з'явілася велізарная змяя, скручаная ў форме стаячай спружыны, і пачала праследаваць Анастасію. Калі змяя амаль параўнялася з дзяўчынай, яе суседка закрычала, каб тая вярталася да яе і дала адпіць малака. І тут жа змяя знікла...

Узгадаем семантыку змяі як сатанічнай, дэманічнай істоты, якую разам з жабамі і мышамі чарадзеі маглі насылаць на сваіх ахвяр.

Гэтым не закончыліся незвычайныя падзеі ў жыцці рэспандэнта на працягу доўгага часу.

Анастасія Рыгораўна была замужам. У маладой на той час сям'і нарадзіўся хлопчык. Калі яму споўнілася 1,5 гады, бацька іх нечакана пакінуў. Увесь цяжар па выхаванню сына лёг на плечы маладой жанчыны. Адзінай надзеяй у жыцці быў яе сын. У адчаі Анастасія Рыгораўна пачала шукаць дапамогі ў Бога,

наведвала з сынам манастыры. Падчас адной з такіх паездак ў Пачаеў жанчына, у якой павесіўся муж, аддала сыну Анастасіі за ўпакой душы вісельніка хусцінку. Малы прыняў, але маці, адчуўшы небяспеку, папрасіла ў сваёй знаёмай вярнуць «адмоўна зараджаную хусцінку» яе ўладальніцы. Нажаль, тая не захацела прыняць яе назад. Анастасія Рыгораўна з дзіцём вярнулася ў родную хату. Доўга не думаючы, яна з гэтай хусцінкай а 12 гадзіне ночы пайшла на раздарожжа, каб спаліць яе і тым выратаваць сына ад магчымага няшчасця. Спаленая хусцінка вярнула жанчыне супакой, упэўненасць у добрым будучым сына.

Усё было добра да тых часоў, пакуль сына не забралі ў армію. Служыць выпала за межамі роднай краіны. Праз некаторы час сын пачаў пісаць лісты аб тым, што над ім здзекуюцца, што там вельмі жорсткая сістэма. Анастасія Рыгораўна, кінуўшы ўсе справы, паляцела на самалёце да яго. Яна патраціла шмат грошай, вымаліла, выпрасіла сына ў людзей і Бога. Але не ведала жанчына, што ўсё гэта марна. Выратаваўшы сына з цяжкай і невыноснай службы, усё ж такі яго страціла. Жыццё сына абарвалася нейкім неверагодным чынам, калі яму было 28 гадоў. Невядома, ці то было самагубства, ці яго забілі, але яна знайшла сына павешаным на вяроўцы ў пакоі, але гэта было яшчэ не ўсё: у сына было перарэзана горла, на падлозе ляжаў нож. Маці не хоча даць веры, што сын пайшоў з жыцця па сваёй волі, яна ўпэўнена, што яго забілі. Яна зрабіла яму пахаванне, папрасіла святара. Усе людзі, у тым ліку і святар, былі ўпэўнены, што гэта самагубства. Як вядома, самагубцаў святары не адпявалі, іх хавалі па-за могілкамі. Святар адмовіўся адпяваць яго. Пакутная жанчына, не губляючы надзеі, аб'ездзіла шмат цэркваў, але ёй адмаўлялі. Калі яна пахавала сына, той знайшоў спосаб адпомсціць з таго свету: ен прыходзіў у якасці прывіда да маці. У гэты час трапіў у аварыю сын святара і загінуў. Анастасія Рыгораўна пастаянна прыходзіла ў царкву, малілася за сына, падавала запіскі з яго імем, каб святары прыгадалі яго ў малітве — тады на тым свеце сыну будзе добра. Але яна вельмі легка даведвалася, калі яго імя не чыталі: сын прыходзіў да яе ў брудным адзенні, з вяроўкай на шыі. Ён паказваўся часта, жаліўся на сваё гаротнае жыццё. Маці размаўляла з сынам, а суседка, пабачыўшы гэта, падумала, што жанчына пасля ўсіх гэтых страшных падзей памяшалася і размаўляе сама з сабой. Аднавяскоўцы таксама Анастасію Рыгораўну недалюблівалі, замест таго, каб спачуваць. Яна хадзіла на магілу да сына, начавала там, аплаквала яго.

Але здарылася цуда: яна адмаліла яго. Матчыны малітвы былі пачутыя, сведчаннем таму было тое, што Анастасія Рыгораўна пабачыла, як сын сядзеў на лаўцы ў поўдзень, на яго шыі не было вяроўкі, ён быў апрануты ў чыстае белае адзенне і сказаў маці: «Там добра, не плач». У гэты ж час адной з вясковых жанчын сніцца сон пра сына і яго «тагасветную жонку»: «Сын Анастасіі Рыгораўны на тым свеце ажаніўся з непрыгожай дзяўчынай, ён быў начальнікам, у той час як пры жыцці — шаферам».

А як жа склалася далей жыццё Анастасіі Рыгораўны? Суседзі-чарадзеі ў трэцім калене, якія, на думку рэспандэнта, разбілі яе сямейнае шчасце, пазбавілі мужа і сына, працягвалі здзеквацца, адбіраць апошняе здароўе і дабрабыт. Дзіўным чынам з хаты знікалі рэчы, грошы, а замкі пры гэтым былі цэлымі. Пачынаючы з поўначы да 2 гадзін ночы, «у глухую ноч» пасылалі на яе сурокі, палілі лазерам. У гарачцы ёй прыходзілася зімовымі начамі валяцца ў снезе, але цела працягвала гарэць, а

саму жанчыну кідала з боку ў бок. Ад гэтага не дапамагалі лекі, урачы. Па меркаванні жанчыны, яна была настолькі запоўнена гэтым лазерам, што здымкі, зробленыя ў рэнтген-кабінеце, не ўдаваліся. Але за свае злыя чары суседзі плацілі таксама. Смерць аднаго з сям'і гэтых «чарадзеяў», паводле слоў Анастасіі Рыгораўны, была вельмі пакутнай, доўгай. Прыйшлося нават паднімаць дах, каб чорная душа выйшла хутчэй. Але і на тым свеце душа «чарадзея» не знайшла супакаення. Рэспандэнтка пабачыла ў сне, як яе злога суседа па тым свеце ганяюць і б'юць палкамі нейкія істоты, апранутыя ў чорнае.

Адчуў сваю віну і былы муж рэспандэнткі. Пры канцы свайго жыцця, калі яму выставілі дыягназ «анкалогія», ён прыехаў да Анастасіі Рыгораўны, прасіў прабачэння, і жанчына гэта зрабіла. Пасля памер. Пачаў прыходзіць да яе ў снах і прасіць прабачэння. Яна яму даравала і нават прыехала да яго на магілу.

Вось такі трагічны лёс напаткаў нашу рэспандэнтку. Хочацца верыць, што ў жыцці Анастасіі Рыгораўны ўсё зменіцца ў лепшы бок.

Калі паглядзець на гэты аповед з пазіцый фальклрыста, то ў ім вылучаецца цэлы комплекс міфалагічных вобразаў, ідэй, вераванняў, незвычайная вера ў «той» і «гэты» свет, магічныя здольнасці людзей, чорную магію, сімволіку часу, прасторы, колеру, лесу, перакрыжаванняў.

*Запіс 2014 г.*

# Уяўленне пра сусвет

*БРЫНЗА Вера Фамінішна, 1949 г. н., беларуска, пісьменная, 10 класаў, мясцовая, праваслаўная, в. Люта*

Прежде чем построить дом, раньше это место освящали. Батюшку приводили. Батюшка читал молитвы, и если ничего не мешало ему, то можно было строить дом.

Не летом брали деревья — зимой без листьев. Для фундамента брали дуб, а дальше сосна или ель. Лиственные деревья не шли, они шли на отделку: там на подоконники, рамы. Для забора шла осина, потому что осина быстро высыхает и сохраняется долго.

Садить осину нельзя, но в огороде колок поставить можно, потому что она отгоняет злую силу и чтоб не сглазили.

Нельзя бурить гнёзда ласточек, потому, что канопушки будут, и ласточки — Божья птичка.

Дуб нельзя садить возле дома, потому что когда он вырастает в толщину, там можно сделать крест и человек умирает. И каштан тоже нельзя садить, потому что человек может умереть.

А про кукушку сами знаете. Она туда-сюда за чужой счёт. Ну, говорят, кукушка нарожала и покидала, так про людей говорят. Кукушка начинает куковать в мае, а сейчас косы звенят зерновые, и она перестаёт куковать, потому что удавилась зёрнами, вместо того чтобы детей растить, она сама наклевалась, аж удавилась.

*Запісала студэнтка 1 курса спецыяльнасці «Беларуская філалогія» Ніконччык Юлія Мікалаеўна.*
*Запіс 2014 г.*

# Аповед цёткі Вольгі з Пагубяціч пра каравай, прыкметы і «трэцюю хату»



*Качынская Вольга Маісееўна, 1933 г. н., беларуска, пісьменная, мясцовая, праваслаўная*

## ЯК РАБІЛІ КОРОВАЙ

— Гаворань, Вы вельмі прыгожа спяваеце. Нам яшчэ там, у іншых вёсках расказвалі.

— Ну, я колэсь то спывала.

— А якіе Вы песні ведаеце, можа вясельныя?

— Ну, свадебны, то вжэ я і троху і забулася там такое о, як коровай.

— А як у Вас каравай рабілі?

— Ну як вунэ делалы: як пузбыраімося всі девочкі, як там того, посядайімо, а патом хазяйка прыносыть стол там, сэплэ муку, тесто тойе місымо, делайім цветы.

— А з чаго рабілі кветкі?

— А з теста, такэйі цветочкі, розочкі ну такэйі шэ різанкі, тэйі звёздочкі... ну так ны раскажыш.

— А месяц і сонца таксама рабілі?

— Рубэлы, рубэлы.

— А на чый каравай, жыніха ці нівесты?

— Ну, на нівесты.

— А што гэта значыла? Для чаго?

— Ну, хто юго знае, як ны мугу я сказаты, бо тоже ны вэльмэ грамотна. Мама тожэ була в мэнэ сыротою. То, як вона казала, шо того до вусюмнаццаты літ курувэ пасла в мачухы, муя мама, да. Кажэ, вэйду двынаццать часов вжэ. Ну

